ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

№ 2 (126) 2019



## Гародня: тэрыторыя ініцыятывы і вольнага паветра

з Русланам Кулевічам і таленавітымі гарадзенцамі









**Беларуская асацыяцыя журналістаў упершыню брала ўдзел у Міжнароднай спецыялізаванай выставе «СМІ ў Беларусі», якая праходзіла ў Мінску ўжо 23 раз. Стэнд ГА БАЖ прапанаваў сур'езную размову пра сітуацыю са свабодай слова ў Беларусі, прынцыпы і адказнасць журналістыкі ў сучасным грамадстве, стаўленне дзяржавы да вольнага слова. Наведвальнікі стэнда адзначалі, аднак, што арганізатары выставы спланавалі дзею як карнавал з вялікай колькасцю танцаў, песень, шуму, які перашкаджаў камунікацыям.**





















ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

АБАЖУР

№ 2 (126) 2019

**Выдавец:** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
Перыядычнасць: 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.

**Галоўны рэдактар**
Уладзімір Барысавіч Дзюба

Скарыстаны здымкі Аляксандра Саенкі: 1-я вокладка і ўнутры нумара.

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009.
Падпісана да друку 19.04.2019.
Дата выхаду 10.05.2019.
Фармат 60x84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 8,0
Наклад 300 асобнікаў.
Замова № .
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/142 ад 09.01.2014, № 2/34 ад 23.12.2013.
Распаўсюджваецца бясплатна.

**Адрас рэдакцыі:**
**220004, г. Мінск,**
**вул. Кальварыйская, 16-265.**
**Тэл.: (029) 126-70-98**
**E-mail: abajur@baj.by,**
**baj@baj.by**
**Сайт: www.baj.by**

Друкарня:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «МЕДЫСОНТ».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/34 ад 23.12.2013.
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10,
(017) 203-53-41,
(029) 623-74-10
www.medisont.by

# Спрадвечная мара



Вольга КОРСУН

**Шмат значных для нашай Беларусі падзей – гэта гісторыя мары як кожнага чалавека паасобку, гэтак і шырокай грамадзянскай супольнасці. Напрыклад, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, 101-я ўгодкі якой мы адзначылі сёлета. Век таму, у сітуацыі разгубленасці і нявызначанасці, калі не было саюзнікаў звонку і падтрымкі ўнутры, знайшліся людзі, якія зрабілі нерэальнае рэальным. Фактычна гэта яны заклалі падмурак сённяшняй незалежнай Беларусі. Адсюль і прага вялікай колькасці людзей да дэмакратычных каштоўнасцей, у тым ліку да свабоды слова.**

Наступ на незалежную беларускую журналістыку і пачатак вынішчэння незалежных выданняў пачаўся з Гарадзеншчыны, якую ў 2000-х ахрысцілі «зонай рызыкі» і «інфармацыйнай пустэчай». Але жаданне быць свабоднымі – характэрная рыса гарадзенцаў.

Альберт Эйнштэйн меў рацыю не толькі ў тэорыі адноснасці, якая зрабіла пераварот у фізіцы. Была ў яго яшчэ тэорыя адноснасці бар'ераў. На пытанне, адкуль бяруцца вынаходніцтвы, Эйнштэйн адказваў: «Усе ведаюць, што чагосьці зрабіць нельга. Але аднойчы прыходзіць той адзіны, хто не ведае, што нельга, і робіць гэта». Дык вось, дзякуючы гарадзенскім журналістам у Гродне больш за 20 гадоў існуе **Школа маладога журналіста**, якая адкрыла дарогу ў прафесію і грамадскую дзейнасць дзясяткам маладзёнаў. У нас працуе грамадская пляцоўка **«Цэнтр гарадскога жыцця»**, якая захоўвае душу Гродна. Тут адбываюцца культурніцкія імпрэзы, выставы, лекцыі, круглыя сталы, дыскусіі, майстар-класы, творчыя сустрэчы. Ініцыятыва **HrodnaMediaRoom** дала другое дыханне журналісцкаму жыццю ў горадзе і займаецца прасоўваннем медыяпісьменнасці сярод гарадзенцаў. Эфектыўна працуе адзіны на Гарадзеншчыне беларускамоўны інтэрнэт-партал **Hrodna**.**life**, журналісты якога трымаюць руку на пульсе жыцця горада і змяняюць гарадскую прастору (напрыклад, дзякуючы сайту ў цэнтры Гродна прадублявалі гістарычныя назвы 16 вуліц).

Мара пра журналістыку, якая можа змяніць свет і дапамагчы пабудаваць справядлівае грамадства, мара пра новую, незалежную Беларусь аб'ядноўвала і працягвае аб'ядноўваць многіх з нас.

Асабліва востра прага да праўдзівай, непадцэнзурнай журналістыкі адчувалася ў 1990-я, калі грамадскасць прачнулася ад летаргічнага сну, што доўжыўся больш як 70 гадоў. Тады аптымізм нашых старэйшых калег надаваў веры, яны стваралі прынцыпова новыя СМІ для новай, незалежнай краіны. Журналісты цярпелі праслед, іх выданні закрывалі, аднак менавіта яны паказвалі прыклад прафесійнай мужнасці. І мусілі стварыць духоўны падмурак і маральныя арыенціры для тых, хто абраў непадцэнзурную журналістыку сёння.

«Наша газета была адначасова і інструментам уплыву, і інструментам інфармавання, і інструментам фармавання грамадскай думкі, – расказвае былы рэдактар газеты «Пагоня» **Мікола Маркевіч.** – Яна паўстала як выражэнне памкненняў тысяч нашых суайчыннікаў. Былі людзі, якія прагнулі аб'ектыўнай і незалежнай інфармацыі, былі людзі, якія хацелі, каб гэта было па-беларуску. І былі кадры, якія маглі рабіць якасную журналістыку. Газета будзіла



грамадскую думку шырокага кола чытачоў, якія бачылі свет беларускімі вачыма, праз прызму таго, што гэта наша краіна, наша мова і культура і што мы будзем бачыць нашу Беларусь такой, якой мы пабудуем яе цяпер.

Тады ва ўладаў былі свае задачы: яны адпрацоўвалі механізмы ўдушэння, запалохвання і татальнага кантролю над свабодай слова. Але, на мой погляд, улада дасягнула адваротнага выніку. Бо такога яднання і салідарнасці, калі закрывалі нашу газету, я ніколі не бачыў.

А сёння, куды б ні пайшла журналістыка, яна павінна будзе адказваць на самыя балючыя пытанні і праблемы таго часу, у якім жыве.

Пры першым зручным моманце беларушчына і незалежная журналістыка праб'юцца скрозь асфальт. Гэта закон жыцця. Ніякія жаўнеры, ніякая турма, ніякія драконаўскія законы не здолеюць гэтаму нічога супрацьпаставіць. Са мной ці без мяне такая з'ява, як "Пагоня", будзе адроджаная».



Успамінае і разважае **Алена Раўбецкая**, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Біржа інфармацыі», які з-за палітычнага і эканамічнага ціску ў 2004 годзе спыніў сваё існаванне: «У сапраўдных журналістаў не бывае з уладамі цесных і добрых узаемаадносін. Журналіст у ідэале – гэта чалавек паміж грамадствам і ўладамі. У 1990-х – пачатку 2000-х на Гарадзеншчыне было вельмі мала газет, бо зарэгістраваць новую незалежную грамадска-палітычную газету тады было практычна немагчыма.

І калі нашу дзейнасць прыпынілі на тры месяцы, мы не змаглі вярнуцца ў друкарню. Гэта быў моцны эканамічны ціск. Можна было пачаць друкавацца ў Смаленску, але тады б мы набылі чыста палітычны фармат, ад нас сышоў бы рэкламадаўца. Мне гэтага ніколі не хацелася. Таму што жыццё большае за палітыку, бо яно шматграннае.

Сёння друкаваным СМІ на ўзроўні незалежнай грамадска-палітычнай газеты існаваць практычна немагчыма. Ты ці сыдзеш у цалкам рэкламны фармат, ці ў цябе будзе бізнес-гаспадар. Быць незалежным – гэта класна, але ў эканамічным плане вельмі складана. Мне падаецца, што не выхавалася пакаленне людзей, якія пойдуць і зробяць новую "Біржу інфармацыі" ці "Пагоню". Больш за тое, патрэбна аўдыторыя, а ці ёсць яна?

Я за свабоду СМІ і свабоду слова, разам з тым і за ўнутраную цэнзуру – яна дапамагае суіснаваць з людзьмі. Свабода – гэта сродак, з дапамогай якога людзі могуць станавіцца больш чыстымі, выхоўваць годнае новае пакаленне, добраўпарадкоўваць сваю краіну. Таму што выніковая мэта – гэта не свабода, а з пункту гледжання штодзённага жыцця гэта дабрабыт, з пункту гледжання душы – высокая духоўнасць, адукаванасць і г. д.

Хтосьці прыдумаў, што свабода – гэта "можна". Але галоўнае – гэта свабода выбару, тое, што адрозніваe нас ад жывёл. Свабода – гэта ўменне сябе абмяжоўваць. Не іншага, а менавіта сябе».



**Анджэй Пачобут**, журналіст «Gazety Wyborczey»: «Калі мы размаўляем пра Беларусь, то кожны чалавек, журналіст у першую чаргу, які мае характар, самапавагу і не баіцца выказваць сваё меркаванне, павінен быць падрыхтаваны да таго, што можа апынуцца за кратамі.

Калі мяне арыштавалі, першыя тры-чатыры дні я быў у ізалятары часовага ўтрымання, пасля мяне прывезлі ў гродзенскую турму, пасадзілі ў "каранцін" – гэта першая камера, у якую ты трапляеш.

Я прабыў там больш за суткі, але гэты час запомніўся смехам. Калі ў такой сітуацыі нехта пачне скавытаць, то і астатнія таксама пачнуць скавытаць. Тады, лічы, ты здаўся, бо сістэме ўдалося цябе зламаць.

Калі пачынаеш прыстасоўвацца, прагібацца – згубіш сябе як прафесіянал. У мяне, напрыклад, няма ніякага жадання аналізаваць свет з пазіцыі чалавека, які ўвесь час вымушаны змяняць свае погляды ці паводзіны ў залежнасці ад таго, які сёння настрой у прэзідэнта. Мне падаецца, гэта вельмі сумны шлях. Дзяржава ставіцца да дзяржаўных журналістаў як да гаспадарчай абслугі. Але хтосьці ж павінен абслугоўваць уладу, хтосьці павінен месці вуліцы, то бок само па сабе гэта не дрэнна. Калі ты лічыш сваім пакліканнем абслугоўванне ўлады – калі ласка, але ты тады не журналіст. Гэта абсалютна іншая прафесія, бліжэй да піяршчыкаў.

Паліттэхнолаг, які абслугоўвае апазіцыю, бліжэй да дзяржаўнага журналіста, чым да незалежнага прафесіянала, таму што журналіст мае іншую функцыю – ён павінен пісаць пра рэчаіснасць. І калі ты праўдзіва адлюстроўваеш рэчаіснасць, то ты сапраўдны журналіст».

Незалежныя журналісты і цяпер ствараюць, дзейнічаюць, змяняюць прастору, у якой жывуць, і будуюць падмуркі для новай, дэмакратычнай, еўрапейскай Беларусі. Можна закрываць газеты, штрафаваць журналістаў за прафесійную дзейнасць, саджаць у турму, але мару так проста не знішчыш. Яна ўсё адно прарасце ў цікавых праектах, імёнах і ўчынках. Пра гэта мы, гарадзенскія журналісты, хацелі б расказаць у гэтым выпуску часопіса «Абажур».

# Разумець сутнасць прафесіі:

## выпускнікі гарадзенскай Школы маладога журналіста пра выклікі і сакрэты

Даведка

Дзве асноўныя мэты ШМЖ – падрыхтоўка кадраў для незалежных выданняў і абуджэнне грамадзян, якія больш гатовыя актыўна ўдзельнічаць ў жыцці горада.

**За 20 выпускаў у гарадзенскай Школе маладога журналіста (ШМЖ) навучалася больш за 450 чалавек, кожны чацвёрты дагэтуль звязаны з медыя. Больш за 100 падрыхтаваных для краіны і рэгіёна спецыялістаў – выдатны вынік для «неабцяжаранай» дзяржаўнымі сродкамі і дзяржаўнай увагай грамадскай ініцыятывы. Але гарадзенскія шаэмжэшнікі скіраваныя не на выніку, а на выклікі заўтрашніх дзён.**

Якія выклікі асабліва востра сёння стаяць перад журналістыкай? Што сёння патрэбна журналістам, каб паспяхова рабіць сваю працу? Якія якасці дапамагаюць быць паспяховым?

На гэтыя тры пытанні адказвалі: **Вітаўт Руднік**, заснавальнік гарадзенскай ШМЖ; выпускнікі ў розныя гады: **Зміцер Ягораў** («Белсат»), **Марыя Садоўская-Камлач** (медыя-аналітык), **Алесь Кіркевіч** (журналіст-фрылансер), **Эвіка Отто** («Камсамольская праўда ў Беларусі»).



### Вітаўт Руднік:

### *«На жаль, сёння нікому не патрэбныя публіцысты, якія будуць месяц пісаць свае тэксты»*

**Вітаўт Руднік, заснавальнік Школы маладога журналіста, якая пасля рэбрэндынга называецца Школай сучаснай журналістыкі, сцвярджае, што Школа прынцыпова**




Заняткі
з кіраўніком рэдакцыі
інфармацыі «Белсата»
Змітром Ягоравым



**адрозніваецца ад дзяржаўных факультэтаў журналістыкі:**

– Першае – каштоўнаснае. Мы рыхтуем менавіта журналістаў, для якіх праўда найдаражэйшая, а не прапагандыстаў і агітатараў, – тлумачыць Руднік. – Другое – прафесійны падыход. Мы імкнемся рабіць Школу максімальна практыкаарыенатаванай. Нашыя заняткі адразу даюць навучэнцам важныя кампетэнцыі, каб пачаць пісаць. Думаю, што год навучання ў нас дае не менш кампетэнцый, чым пяць гадоў у дзяржаўным універсітэце.

***– Якія выклікі асабліва востра сёння стаяць перад журналістамі і журналістыкай у свеце і перадусім у Беларусі?***

– Сэнс прафесіі застаўся тым жа – як мага хутчэй здабыць для сваёй аўдыторыі інфармацыю. Але заўважна памяняўся фармат працы журналіста. У 1990-я газета выходзіла раз на тыдзень. Тое, што адбывалася 5–6 дзён таму, ішло ў раздзел «навіны». Цяпер у «навіны» пойдзе тое, што адбылося 1–2 гадзіны таму. Выклік у тым, каб хутка здабыць інфармацыю і падаць у прывабным для чытача выглядзе. Многія такога працоўнага тэмпу не вытрымліваюць.

Наступны выклік звязаны з сацыяльнымі сеткамі. Кожны, дзякуючы ім, можа паспрабаваць лічыць сябе журналістам або блогерам. Размываецца разуменне сутнасці журналістыкі.

Трэці выклік – інфармацыйныя войны, хваля фэйкаў, дзе журналістам вельмі складана дабрацца да праўды і не патрапіць у пастку, знайсці час і сілы, каб праверыць інфармацыю.

Спецыфічна беларускі выклік – незалежнага журналіста могуць затрымаць і кінуць на «суткі», абвінаваціць у тым, чаго ён не рабіў. Прафесіяналу-журналісту, а тым больш фрылансеру – не даць інфармацыю ці каментар, бо, маўляў, ты недзяржаўны, неакрэдытаваны і г. д. Сёння, каб пайсці ў прафесію, мала мець пакліканне і цікавасць, патрэбна яшчэ мужнасць.

***– Што, на ваш погляд, сёння патрэбна журналістам, каб паспяхова працаваць?***

– Разумець сутнасць прафесіі. Мець каштоўнасны падмурак, што ты не абслугоўваеш кагосьці, а працуеш для свайго чытача, які хоча мець праўдзівую інфармацыю. Здольнасць быць універсальным. Сёння, на жаль, нікому не патрэбныя публіцысты, якія будуць месяц пісаць свае тэксты.



Заняткі з прадзюсерам «Белсата» Ірынай Чарняўкай





# Зміцер Ягораў: «Можна дагрукацца хоць да Папы Рымскага па каментар»



**Зміцер Ягораў – выпускнік 4-га набору ШМЖ, адзін з заснавальнікаў інтэрнэт-парталу «Твой стыль». Цяпер – кіраўнік рэдакцыі інфармацыі тэлеканала «Белсат». У журналістыцы 19 гадоў.**

***– Якія выклікі асабліва вострa сёння стаяць перад журналістыкай?***

– Журналісты даўно згубілі манаполію на навіны і інфармацыю. Гэта адбіваецца на падзенні прэстыжу прафесіі, яе «размыванні». «Прынт памёр», «тэлебачанне не глядзяць» – з гэтым можна спрачацца, але немагчыма ігнараваць тое, што медыяспажыванне ўвесь час змяняецца. Толькі тыя, хто ў стане пасяваць ці апярэджваць змены, маюць шанец на развіццё і выжыванне. Цяпер трэба бегчы з усіх ног, каб хаця б застацца на тым самым месцы.

***– Што сёння патрэбна журналісту, каб паспяхова працаваць на медыярынку?***

– Макбук, GoPro, трошку софту і адкрыты да ўсяго новага рэдактар. Насамрэч і крытэры поспеху цяпер няясныя. Чаго хоча дасягнуць журналіст: грошай, славы, місіі, запатрабаванасці, творчай свабоды, уплыву на рэчаіснасць? Я ведаю некалькі журналістаў, для якіх прынцыпова розныя па важнасці асобныя з гэтых крытэраў.

***– Якія якасці дапамагаюць быць паспяховым журналістам?***

– Цікаўнасць да свету, людзей і тэхналогіяў, шмат творчага запалу і пры гэтым… здольнасць да планамернай працы. Выбіраючы паміж журналістам, які фантаніруе ідэямі, але не ў стане рэалізаваць ні адну з іх, ды тым, што сядзе ў куточку і чакае, пакуль яму «дадуць» тэму і растлумачаць, як яе рабіць, я не выберу ні аднаго з іх.

Журналістыка яшчэ застаецца прафесіяй, дзе няма немагчымых рэчаў. Я ўпэўнены, што пры адпаведным напоры і матывацыі можна дагрукацца па каментар хоць да Папы Рымскага.



# Марыя Садоўская-Камлач: *«Расследаванням саступаюць месца сенсацыйныя загалоўкі»*

**Марыя Садоўская-Камлач – выпускніца ШМЖ 1998 года, медыя-аналітык і журналіст з больш чым 15-гадовым досведам працы. Працавала ў Беларусі, Польшчы, Бельгіі, Францыі, Нідэрландах. Мае ступень магістра ў галіне палітычнай журналісткі Калумбійскага ўніверсітэту.**

***– Якія выклікі асабліва востра сёння стаяць перад журналістыкай?***

– Медыя па ўсім свеце перажываюць крызіс бізнэс-мадэлі: аўдыторыі і рэкламадаўцы пераходзяць у інтэрнэт, дзе найбольшы прыбытак атрымліваюць не медыя, а тэхнічныя кампаніі-гіганты, такія як Google або Facebook.

У краінах з палітычным і эканамічным ціскам на незалежныя медыя сітуацыя пагаршаецца яшчэ і тым, што сапраўды незалежныя і каштоўнаснаарыентаваныя СМІ ставяцца ў няроўныя ўмовы з залежнымі і палітычна ангажаванымі. У гэтай сітуацыі незалежныя выданні або мусяць пачынаць канкураваць за рост онлайн-аўдыторыі і клікі, што вядзе да іх таблоідызацыі, або шукаць спосабы зарабляць на кантэнце іншым спосабам, што вельмі цяжка ў няроўных умовах. Гэта не можа не адлюстроўвацца на якасці журналістыкі: сур'ёзным расследаванням часта саступаюць месца сенсацыйныя загалоўкі з дадаткамі а-ля «ДАДАЛІСЯ ФОТЫ».

Што рабіць у такой сітуацыі журналісту? Займацца сур'ёзнай справай, не атрымліваючы за гэта годнай аплаты працы, рызыкаваць працай на незарэгістраваныя або неакрэдытаваныя медыя ці выбраць болей аплочваемую і меней стрэсавую працу? Гэта выбар, які робяць для сябе журналісты як ва Усходняй Еўропе, так і ў іншых рэгіёнах з нестабільнымі рэжымамі, напрыклад Лацінскай Амерыцы.

***– Што сёння патрэбна журналісту, каб паспяхова працаваць на медыярынку?***

– Патрабаванні да журналіста на сучасным медыярынку знаходзяцца пад моцным уплывам дамінуючай ідэі пра тое, што прынясе рэдакцыі болей грошай. Колькі год таму лічылася, што кожны журналіст павінен быць «канвергентным», то бок аднолькава добра валодаць відэа, фота, тэкстам і онлайн-фарматамі.

З развіццём рынку стала зразумела, што такіх людзей не бывае, або калі яны бываюць, то агульная якасць іх працы не можа параўнацца з працай адмыслоўцаў.

Цяпер у модзе новы трэнд: журналіст павінен ведаць асноўныя праграмы відэа- і аўдыёэфектаў, але яму не абавязкова быць прафесійным аператарам.

Дадалася яшчэ адна важная функцыя: уменне працаваць з вялікімі масівамі дадзеных. Амаль 10 гадоў таму, калі я прыехала вучыцца ў Школу журналістыкі ў Калумбійскім універсітэце, мяне ўразіла, наколькі журналістыка расследаванняў усprымалася скрозь прызму ўмення хутка і эфектыўна апрацаваць і прааналізаваць базы дадзеных. У той час як у нашым рэгіёне пра гэта амаль не думалі. Зараз патрэба працаваць з дадзенымі з'яўляецца надзённай і для нашай краіны.

***– Якія якасці дапамагаюць быць паспяховым журналістам?***

– Насамрэч, каб быць добрым журналістам, трэба мець усе тыя самыя якасці, што і 10, і 30 гадоў таму: быць цікаўным, не спыняцца на дасягнутым, добра правяраць свае крыніцы, ствараць і ўтрымліваць давер, прытрымлівацца базавых каштоўнасцяў, умець атрымаць інфармацыю ў самых розных сітуацыях.

Але да гэтага дадаецца магчымасць самаадукоўвацца праз шматлікія анлайн-курсы і трэнінгі «ўжывую», для якой, у сваю чаргу, вельмі патрэбна веданне хаця б англійскай мовы. Інстытут Пойнтэра, Цэнтр Knight і іншыя ўстановы вядуць шмат бясплатных курсаў і заняткаў для журналістаў з усяго свету, і гэта дае магчымасць быць у глабальным трэндзе.

Калі казаць пра беларускую сітуацыю, то, на жаль, журналісту таксама трэба трэніраваць у сабе такія якасці, як псіхалагічная ўстойлівасць на допытах, рэакцыя на вобшукі і абвінавачванні – узгадаем хаця б пра так званую «справу БЕЛТА». Але з іншага боку, такія якасці вельмі цэняцца і ў рэшце свету, асабліва калі вы працуеце ў канфліктнай зоне або іншых гарачых кропках, таму пры належнай смеласці і адкрытасці да перамен журналістам можа быць цікава і карысна – і для нас, і для грамадства.



# Алесь Кіркевіч: *«Інфармацыя – тая ж ежа»*

**Алесь Кіркевіч – выпускнік ШМЖ, у журналістыцы з 2012 году. Цяпер журналіст-фрылансер, піша для «Белгазеты», «Белсата», «Новага Часу» і іншых СМІ.**

– Галоўны выклік, які сёння паўстаў для журналістаў – перапоўненасць інфармацыяй, дзе далёка не ўсё праўда, далёка не ўсё патрэбна.

***– Што сёння патрэбна журналісту, каб паспяхова працаваць на медыярынку?***

– Якасны, цікавы, лаканічны кантэнт, які будзе дастаткова прывабным, каб яго заўважылі, дастаткова лёгкім у спажыванні, каб яго «з'елі», дастаткова карысным, каб пасля не было ванітаў ці пякоткі. Інфармацыя – тая ж ежа, прадукт.

***– Якія якасці дапамагаюць журналісту быць паспяховым?***

– Лёгкае пяро і адсутнасць корачкі беларускага журфаку.



*Заняткі з фотарэпарцёрам-фрылансерам Аляксандрам Саенкам*



# Эвіка Отто: *«Журналістаў пацяснілі блогеры»*

**Эвіка Отто – выпускніца ШМЖ 2004 года, стажыравалася ў гарадзенскай газеце «Біржа інфармацыі», цяпер – журналістка газеты «Комсомольская правда в Белоруссии». У журналістыцы 8 гадоў.**

– Сёння самае галоўнае – гэта хуткасць. Калі толькі пачыналі развівацца інтэрнэт-выданні, не было такой гонкі. Цяпер важна быць сабраным, «універсальным салдатам», умець пісаць, здымаць, выкладаць у інтэрнэт, трымаць руку на пульсе, хутка працаваць, глядзець у корань. Няма часу на раскачку.

З іншага боку, мяняецца якасць журналістыкі, мала аналітычных матэрыялаў. Усё робіцца на хуткую руку. Нядаўна быў адбор на «Еўрабачанне», я рыхтавала матэрыял. Напрыканцы шоу было зразумела, якая артыстка найверагодней пераможа. Я падрыхтавала тэкст, выставіла яго на сайт драфтам і чакала толькі афіцыйнага абвяшчэння вынікаў, каб націснуць кнопку «апублікаваць». Націснула – і ўсё роўна мы не былі першымі з гэтай навінай. Вырашала розніца ў 1–2 хвіліны.

Трэба з-за хуткасці не згубіць якасць. Чаму з'яўляюцца фэйкі? Бо няма часу праверыць інфармацыю. Думаю, лепей ты спознішся на тры хвіліны, але дасі праўдзівую інфармацыю.

Сёння журналістаў пацяснілі блогеры. Чалавек можа ствараць сам свой кантэнт і паспяхова яго прасоўваць. Гэта мегакрута – ты можаш сябе рэалізаваць, нават калі цябе не возьмуць адразу на працу ў рэдакцыю.

***– Што сёння патрэбна журналісту, каб паспяхова працаваць на медыярынку?***

– Думаю, патрэбна быць сабраным, умець рабіць якасна, хутка і не баяцца. Важна ўмець камунікаваць з людзьмі, быць у гэтым шчырым. Калі ты будзеш незацікаўленым у тым, што робіш, гэта будзе нецікава ні тым, з кім размаўляеш, ні тым, хто будзе чытаць.

Трэба быць настойлівым, «даціскаць» свае крыніцы, каб атрымаць інфармацыю, умець трымаць удар, калі ты падымаеш праблемную тэму. Трэба быць нахабным – што паробіш, нас ніхто не любіць. Варта добра ведаць пытанне, пра якое пішаш, каб быць на ўзроўні з чыноўнікамі або іншымі людзьмі, у якіх ты бярэш каментар.

**Падрыхтавала Марыся Харэвіч**

# «Типичный гродненец»: паблік з «гарадзенскім духам»

**Часам можна пачуць, як сацсеткі супрацьпастаўляюцца глыбокай інтэлектуальнай журналістыцы, а часцяком нават і культуры наогул. Ці справядліва гэта? Ці можа масавы папулярны паблік з гумарам, мемамі і лаканічнымі допісамі прымушаць чытача задумвацца?**

Каб разабрацца, вырашылі пагутарыць з адным з адміністратараў пабліка «Типичный гродненец» гісторыкам **Янам Гардзеевым**. Хлопец ужо шмат гадоў пакідае ў пабліку допісы пра гісторыю роднага горада, людзей, якія тут жылі, мясцовыя звычаі ды культуру. Так «ТГ» пераўтварыўся ў моладзевую суполку з «гарадзенскім духам» – выразнай самаідэнтыфікацыяй і нават лёгкай шляхецкай пыхай.

## «Мяне цікавіла папулярызацыя гісторыі майго горада»

– Недзе на на мяжы 2012–2013 гадоў, калі ўзнікала і набірала абароты сама суполка «Типичный гродненец», пад некаторымі тэматычнымі допісамі я пакінуў пару каментароў пра гісторыю горада. Гэта, відаць, зацікавіла заснавальніка «ТГ». Ён і запрасіў мяне ў тагачасную каманду.

***– Ці ставіў перад сабой пэўныя мэты, беручыся за справу?***

– Так. Першапачаткова я быў адказным за гістарычныя запісы, а ў якасці мэты ставіў перад сабой як мага шырэйшую папулярызацыю гарадзенскай гісторыі менавіта сярод гарадзенцаў. На той час у сацсетках ніхто гэтым не займаўся. Я рабіў допісы пра розных гістарычных персанажаў і падзеі, посціў старыя фотаздымкі горада, навукова-папулярныя артыкулы і г. д.

***– Ці можна на гэтым усім зарабляць грошы і ці было для цябе гэта важна? Скажам, ёсць тэма з продажам паблікаў у сацсетках – ці былі такія прапановы?***

– Безумоўна, зарабляць можна! Гэта, дарэчы, распаўсюджаная практыка. Але калі б гэта быў персанальна мой прыярытэт, я б ніколі не браўся за справу. Паўтаруся, мяне цікавіла папулярызацыя гісторыі майго горада.

> ***Лепшы матэрыял журналіста наўпрост застанецца непрачытаным, калі яго не падсунуць пад нос публіцы.***

Некалі, «на досвітку» працы суполкі, нас было ўсяго пара чалавек. Кожны адказваў за сваю справу: нехта за фотаздымкі, іншы за імпрэзы і рэкламу, хтосьці за ўсё патроху. З часам каманда распалася, нехта сышоў, перастаў займацца. Мне асабіста шкада было б пакінуць горад без своеасаблівай лакальнай суполкі ў сацсетках, вось і прыйшлося ўзяць на сябе абавязкі іншых.



***– Як доўга існуе сам паблік і як расла колькасць яго падпісчыкаў? Магчыма, былі нейкія пікавыя моманты росту?***

– Паблік існуе з канца 2012 года, калі не памыляюся. Прыблізна першыя два гады ён быў даволі папулярным. Менавіта тады колькасць падпісантаў узрастала вельмі хутка. Пазней заўважна зніжалася. Тут шмат чыннікаў. Мяркую, сярод іх і адсутнасць рэбрэндынгу, і фактычны распад першаснай каманды. Наконт «самага папулярнага пабліка ў Горадні», дык «ТГ» мог прэтэндаваць на гэта ў свой «залаты час», які наўрад ці ўжо калі вернецца… *Panta rhei*, як кажуць, «у адну раку не ўвойдзеш двойчы». Гэта лёс шматлікіх суполак, гэта жыццё са сваімі законамі.

## Пра «эпоху постпраўды» і fake news

***– Што галоўнае: якасна напісаць ці расшыфраваць і данесці да чытача пэўную інфармацыю? Іншымі словамі, хто галоўны: журналіст ці эсэмэмшчык?***

– Не з'яўляюся спецыялістам у абодвух сферах, але, з майго досведу і на мой погляд, тут можна паставіць пытанне інакш. Хто за што адказны? У ідэале задача журналіста – напісаць добры матэрыял, а ўжо праблема эсэмэмшчыка тэму распіярыць і данесці да больш шырокай аўдыторы. Бо самы лепшы матэрыял журналіста наўпрост застанецца непрачытаным, калі яго не падсунуць пад нос публіцы.

**Наш час у плане інфармацыі ўжо назвалі эпохай постпраўды, мы ў ёй акурат жывем. Fake news – частка будзёнасці, а не нешта экстраардынарнае. Шмат хто ўжо і не ведае, каму верыць і дзе браць вартыя даверу факты.**

***– Кажуць іншым разам, што паблікі ў сацсетках – гэта смерць глыбокай інтэлектуальнай журналістыкі, культурная дэградацыя… Што думаеш?***

– Па-першае, лічу, што сур'ёзная журналістыка – гэта зусім іншы свет, а сацсеткі могуць быць наўпрост платформай для піяру СМІ ці канкрэтных артыкулаў. Па-другое, паблікі бываюць розныя. У сацсетках хапае якасных і цікавых суполак, груп, роўна як і сайтаў у сеціве. А бывае і наадварот, люстэркава: дрэнныя сайты, дрэнныя паблікі. Тое ж тычыцца артыкулаў, СМІ, газет ці кніг.

Цікавы яшчэ іншы аспект. Звярніце ўвагу, колькі праглядаў на інфасайтах набіраюць навіны аб праблемах рэстаўрацыі гістарычных будынкаў, афішы культурных мерапрыемстваў, а колькі ньюсы пра ДТЗ, новы маркет ці нейкія здарэнні. Статыстыка сумная. Праблема не ў сацсетках, а ў людзях, якія імі карыстаюцца. А яшчэ – у саміх СМІ, якія падпарадкоўваюць рэдакцыйную палітыку элементарным патрэбам большасці.

Наш час у плане інфармацыі ўжо назвалі эпохай постпраўды, мы ў ёй акурат жывем. *Fake news* – частка будзёнасці, а не нешта экстраардынарнае. Шмат хто ўжо і не ведае, каму верыць і дзе браць вартыя даверу факты. Іншыя, безумоўна, гэтым карыстаюцца. Гэта ж цэлы комплекс праблемаў сучаснасці, і вінаватыя тут, пагадзіцеся, не сацсеткі як з'ява.

## «Гісторыя ў фармаце сацсетак – гэта агульнабеларуская з'ява»

***– Ты посціш у «ТГ» шмат нацыянальна-арыентаванага кантэнту. Як гэта ўспрымаецца?***

– З некаторымі смешнымі выключэннямі, але наогул добра. Падобны кантэнт – гэта ўжо не выключэнне, не дысідэнцтва, а нармальная з'ява. І гэта не толькі прыклад «ТГ», але і вопыт працы ў іншай вядомай агульнабеларускай суполцы, у якой я таксама займаюся папулярызацыяй гісторыі ды культуры. Гісторыя ў фармаце сацсетак – гэта ўжо агульнабеларуская з'ява. Канешне, шмат якія іншыя краіны прайшлі ўсё гэта сто год таму (зразумела, без сацсетак, але з газетамі і часопісамі), там ужо нікому не трэба тлумачыць падставовыя рэчы пра замкі, князёў, каштоўнасць мовы, а ў нас гэты час надыходзіць толькі зараз. Лепш позна, чым ніколі.

***– Ці грае прынцыповую ролю ў прасоўванні інфармацыі мова напісання? Ці ўспрымаюць наогул беларускую мову нашы маладзёны?***

– І так, і не. Усё залежыць ад канкрэтнага допісу і падпісанта пабліка. Кожны прыклад – асобная



Ян Гардзееў, адзін з адміністратараў пабліка «Типичный гродненец»

гісторыя. Але ў якасці цікавосткі магу адзначыць, што некаторыя допісы ў «ТГ» з'яўляюцца не толькі на нацыянальнай мове ці на другой дзяржаўнай, але і на іншых мовах: усё ж Горадня вядомая сваёй шматэтнічнай спадчынай. Агулам жа моладзь добра ўспрымае беларускую мову, некаторыя самі пераключаюцца на яе, калі бачаць, што іншыя ёй карыстаюцца.

Варта дадаць, што шмат гарадзенскіх маладзёнаў вучыцца, працуе ці наўпрост рэгулярна бывае за мяжой і, як ні парадаксальна, менавіта там частка з іх «беларусізуецца», прычым не толькі ў моўным плане, але і ў плане самаідэнтыфікацыі. Хлопцы і дзяўчаты бачаць адрозненні іншых народаў і культураў, звяртаюць увагу на іншыя звычаі, таму задумваюцца і пра свае, задаюцца пытаннямі, хто я ды адкуль я? Ведаю такія выпадкі, таму і прыводжу ў прыклад.

***– Ці адсочваў ты дзейнасць падобных лакальных паблікаў у іншых гарадах – Берасці, Воршы, Гомелі?***

– Вядома, цікавіўся іншымі прыкладамі. Так, у некаторых суполках заўважаў «сухую» публікацыю навінаў, копіпаст, у некаторых публікавалася ўсё запар, іншыя былі наўпрост платформамі нейкіх лакальных СМІ. На мой погляд, гарадзенская суполка хоць у нейкай ступені вылучалася сваёй спецыфікай і нестандартнасцю, але гэта, вядома, суб'ектыўная думка чалавека, датычнага да «ТГ».

***– Ці фарміруецца вакол пабліка «ТГ» нейкае кам'юніці людзей, пастаянных чытачоў, каментатараў, рэпосцераў? Хто гэтыя людзі і што з імі можна рабіць?***

– Хіба што кожная суполка мае сваіх «жалезных падпісантаў», якія часцяком каментуюць, ціснуць падабайкі ці рэпосцяць. Таксама было і з «ТГ». Але што гэта за людзі, прыдумваць не хачу, бо не працую на былой Іванаўскай (*сёння вул. Тэльмана, дзе месціцца будынак КДБ. – Аўт.*) і не сачу за незнаёмымі. А што з імі можна рабіць? Наўпрост інфармаваць пра цікавыя і важныя падзеі ў горадзе, імкнуцца зацікавіць роднай гісторыяй і культурай. Праводзіць асветніцкую дзейнасць, карацей кажучы.

**Гутарыў Алесь Кіркевіч**

# Видеть кадр — это ремесло



Инна МАКСИМЧИК

**Герои их социальных репортажей – отшельники, живущие возле Белорусской АЭС, старая цыганка, политический заключенный, неслучайный прохожий, провинциалы, фрики… Пока журналист работает над темой, фоторепортер занимается собственным исследованием образов и знаков. Гродненские фотографы Катерина Гордеева, Наталья Дорош и Александр Саенко рассказывают о правилах хорошего кадра и о том, как появляются снимки – победители профессиональных фотоконкурсов и топы рейтингов в медиа.**



**Катерина Гордеева, фотокорреспондент TUT. BY**

## *Привезли не только историю, но еще блох и застрявшие в одежде колосья*

*Кадры из фоторепортажа на TUT. BY «А навошта нам генератар?» Как живут старики без света на ближайшем к БелАЭС хуторе. Фото Катерины Гордеевой*

Хутор находится в двух километрах от Белорусской атомной электростанции, пройти к нему можно только через пшеничное поле. В доме нет электричества, водопровода, полы земляные. Хозяева, семейная пара Владимир и Юзефа, живут словно в капсуле, ничего не требуя, ничего не желая. Раз в неделю Владимир приходит к автолавке за хлебом. Юзефа, еще до инсульта, иногда выбиралась в костел. Местные соцслужбы предлагали установить в доме генератор, но Владимир наотрез отказался.





– Этот фоторепортаж – история про два мира, где XXI и XIX век уживаются вместе, – рассказывает Катерина. – Из окна их дома хорошо видна атомная станция, словно инопланетная установка. Нам очень повезло, что люди безо всякого смущения пустили в свой дом. Во время разговора Владимир сел на скамейку, за ним – стол с домотканой скатертью, таких уже не встретишь. Я навела камеру и до последнего боялась, что Владимир меня остановит. Но у нас произошел какой-то мгновенный контакт. Владимир посмотрел прямо в объектив. Мне показалось, что он вполне доволен своей жизнью.

Для меня хороший кадр – многоплановый, он должен вызывать эмоциональный отклик, в нем должна быть видна мысль автора. В этом репортаже все удалось соединить. Очень люблю темные неосвещенные помещения, темные тональности, темный ключ в фотографии мне подходит.

В фоторепортаже важно, чтобы была видна история: хороший мастер может уложить ее в четыре кадра, нужно к этому стремиться. В любой истории я уделяю внимание планам: общий, средний, крупный с акцентом на детали. Так, чтобы было понятно без текста. В то же время мне кажется, нельзя быть на 100 % объективным. Любой фоторепортаж несет видение проблемы автором.

## Приехали делать репортаж про цыганку, которой 119 лет, а по паспорту оказалось 98

*Фотографии из репортажа на TUT. BY «Без табора, но с традиционным гаданием. Как живут современные белорусские цыгане в деревне под Лидой». Фото Катерины Гордеевой*

Это цыганское поселение находится в деревне Ходоровцы, недалеко от Лиды, – говорит Катерина. – Здесь была очень эмоциональная встреча.



Не сказать, что мистическая, но, возможно, магия и психология в тот момент сошлись вместе. Мы не предупреждали, что приедем. Старая цыганка оделась, как обычно, со всеми кольцами, серьгами, бусами – она так живет. Технически делать портреты было несложно. Это тот вариант, когда перед тобой яркая личность, когда внешность героя говорит сама за себя и не нужно прибегать к ухищрениям. Камера иногда даже мешала. Я не так много сделала кадров, просто захотелось там жить, погрузиться в их реальность.

Занавеску сразу заметила. В этом доме все было в теплых тонах, а она выбивалась из общей картины – холодная голубая тональность. Визуально сложила картину. Рассматривая выборку, поняла, что кадр – случайная удача, которую удалось ухватить. Больше всего люблю такие кадры.

Для фотографа очень важно быть образованным в художественном плане. Есть такое понятие, как интертекстуальность, связь, взаимопроникновение текстов, стилей, в фотографии она выражается в визуальных образах. В определенный момент все всплывает, как вспышка, получается удачный снимок. Благодаря этому приему в таборе мне стало легко, я смогла без стеснения



фотографировать детей. Было очень жарко, дети во дворе ходили без нижнего белья.

Видеть кадр – это ремесло, фотограф постоянно находится в состоянии полунажатого затвора камеры. Но в силу образованности, насмотренности, визуальных образов, мировой живописи в определенный момент возникает ассоциация: по цветовой тональности, по композиции. И тогда вот оно – сошлось!



## Фотографы любят сюжеты о бездомных, потому что у них обнаженные сердца

*Фотографии – часть репортажа на TUT. BY «Стало веселее, но бездомных не меньше». Как живет приют брата Луиджи около Щучина. Фото Катерины Гордеевой*

– Темы бездомных очень благодарные, так как ты почти всегда уверен, что будут колоритные кадры, интересная фактура, интерьеры, – продолжает Катерина Гордеева. – К брату Луиджи мы отправились еще до скандала (основателя приюта для бездомных избили в милиции якобы за кражу. – *Примеч. ред.*). По заданию редакции, просто посмотреть как дела.

Всегда, когда в приюте новые гости, следом едет кто-то из сельсовета или участковый милиционер с проверкой. Луиджи постоянно ругают, что он снова не сообщил о новом постояльце или посетителях. У него это не вызывает удивления, но для нас была удача, когда неожиданно появилась комиссия из Щучинского райисполкома. История с кражей тянется из прошлого Луиджи: сидел, значит, способен на еще одно преступление. Именно «на зоне» он пришел к Богу. Теперь его путеводной звездой, примером и духовным авторитетом стала мать Тереза. Портреты монахини повсюду: в доме, где живет Луиджи, в доме, где живут бездомные, в ванной, где он их отмывает, в столовой, в каплице, где проходят службы.

Я за это ухватилась и поняла, что изображения Матери Терезы помогут выстроить историю человека. В своем служении Луиджи показался мне очень искренним… Ежедневно он трудится до седьмого пота, чтобы отмыть, накормить и вылечить этих выброшенных на улицу людей. Мне хотелось, чтобы человек, который посмотрит фоторепортаж, это тоже понимал.

Стараюсь во время съемки не вмешиваться в процесс, наблюдаю исключительно со стороны. У меня было достаточно времени, чтобы попробовать разные ракурсы, но показалось более интересным, когда фокус идет на ступни брата Луиджи. Кадр сделан в молитвенной комнате. Обязательная молитва – единственное условие, с которым он принимает бездомных.





Александр Саенко,
фотограф, фрилансер

## *Мы похожи на универсальных солдат: должны все уметь, но при этом рискуем потерять оригинальность*

В хорошем кадре все решает точка съемки

– Этот снимок оказался в новостной подборке Reuters «24 часа» и разошелся по всему миру, попал на первые полосы и развороты газет. А сделан был во время формального пресс-тура, – вспоминает Александр. – Я тогда работал в газете «Вечерний Гродно», журналиста с фотокором пригласили в пресс-тур по погранзаставам. Все думали, что нам покажут границу с собаками, контрольную полосу, а нас привезли на заставу, где сплошной официоз. Фотографы были разочарованы. Во время обеда я вышел на улицу, увидел, что ребята занимаются физподготовкой, спросил: «Можно ли снимать?» Мне разрешили. Положил камеру с широкоугольным объективом на землю, акцент сместился на берцы. Тогда я еще был стрингером в Reuters, предложил им этот снимок, он оказался в новостной подборке «24 часа» и разошелся по всему миру. Под фото стояло мое имя. После этого в редакции начался большой скандал – пограничники приходили выяснять отношения. Оказалось, солдат ни в коем случае нельзя фотографировать, кроме как по стойке смирно. Я получил выговор, но дальше дело не пошло.

Часто в хорошем кадре все решает точка съемки. Люди привыкли смотреть с высоты своего роста, привыкают к тому, что видят. Но изменение точки (сверху или снизу) сразу привлекает внимание. Для Reuters не нужны банальные фото, которые присылают тысячами. Но мое предположение меня не подвело. Этот снимок выстрелил.

Мир меняется очень быстро, любой может нажать на кнопку и получить хороший кадр. Сегодня журналисты научились снимать с места события, монтировать короткие видеоролики. Нужно и нам научиться. Без этого не будешь востребован. Фотограф превращается в универсального солдата. Но здесь есть и обратная сторона: если ты распыляешься, то делаешь работу посредственно. Нужно постоянно поднимать профессиональный уровень, изучать новое, а не гордиться тем, что ты классный фотограф.

Снимок со Змитром Дашкевичем, выпущенным из Гродненской тюрьмы, занял первое место (категория «Новости») в открытом фотоконкурсе «Пресс-фото Беларусь, 2013 год»



– Все знали день, когда Змитра должны выпустить на волю, но не знали точного времени, – говорит Александр Саенко. – Чтобы не допустить скопления журналистов возле тюрьмы, могли и в полночь освободить. Поэтому было организовано дежурство. Я жил тогда недалеко и договорился со знакомой, чтобы она мне позвонила. Звонок раздался в 6 утра. Через 7 минут я был у ворот, а Змитер уже давал интервью. Я работал на несколько изданий, нужно было сделать разнообразные снимки. Все снимали лицо Дашкевича, которое было исхудавшим, усталым. Но тут увидел,





как супруга Наста держит мужа за руку. Казалось, робко, но так, что никогда больше не отпустит. Я сделал акцент на руки и тюремную шапку. Здесь сплелась семейная история и тюремная. Но видно, что проявилась женская энергетика, способная перетягивать в новую жизнь.

Фотожурналистика на 80 % состоит из удачи и на 20 % из твоего умения реагировать на ситуацию.

Традиционно перед Пасхой в Гродно проходит крестный ход, 12 земных остановок Христа по пути на Голгофу. Фото с крестом заняло третье место в «Пресс-фото Беларусь, 2010 год» в номинации «Искусство и развлечение».

# «Подстрелить» интересный сюжет



**Наталья Дорош,**
**титулованный фотограф, журналист**

## *Я не фотохудожник, а фотограф. Снимаю живое*

Серия «Паства» получила в 2011 году на открытом фотоконкурсе «Пресс-фото Беларуси» второе место в номинации «Народные традиции».

Поле. Идет священник с бабушкой. Эта фотография Натальи Дорош из серии «Паства» открывала альбом «Пресс-фото 2011».

– Мой муж, священник, построил на пожертвования прихожан окрестных деревень в селе Сеньковщина храм Серафима Саровского, – рассказывает Наталья. – Очень быстро строил. Храм сделан из толстых бревен, внутри отделан вагонкой. После праздника Крещения Господня приходской священник посещает дома паствы, освящает их святой крещенской водой. Несколько недель ходит, заглядывает в каждую хату. И я к нему прилепилась, как матушка, с фотоаппаратом. На меня сельчане не обращали внимания, не стеснялись. Как на войне получилось: ни один кадр нельзя было повторить.

Снимала все – святую воду, как молятся, кухоньку, котиков, откровения. Все портреты без постановки, селяне часто смотрели прямо в объектив. Сейчас многих из этих людей уже нет в живых, а их хаты снесли бульдозерами. В итоге получился репортаж из умирающей деревни. Я сделала всю серию черно-белой, что было не в формате конкурса пресс-фото, но жюри понравилось, в итоге – второе место.

Заходим в хату, мебели практически нет. В комнате только кровать и табуретка. Сидит улыбчивая старушка, бабушка Нина, обои поклеены с плющом, и она как в джунглях.

В фотографии важно поймать эмоцию и, как в кино, должно происходить какое-то действие.





День независимости Беларуси, так его отпраздновали в деревне Гарны Гродненского района. Мы с мужем проезжали мимо, вижу – редчайший кадр. Остановились, я навела объектив, и поехали дальше. Во что значит «подстрелить» интересный сюжет.





Серия «Полешуки», ретро снимки, конца 1970-х – начала 1980-х из деревни Букча на Полесье. Серия титулованная, выставки прошли в историческом музее в Минске, в Москве, весной в Израиле собираются показывать. Деревня старинная, заложена еще в XV веке. Родина моего мужа. Я там появилась как праздная женщина, приезжала за ягодами, отдыхать. Женщины приводили детей присматривать, а я устраивала фотосессии. Мальчишки обриты наголо, так тогда спасались от вшей, родители ведь целый день на работе.

Вольга КОРСУН

# 7 прыпынкаў непадцэнзурнай Гародні

**Найноўшая гісторыя незалежнай гарадзенскай журналістыкі багатая на розныя цікавыя з'явы ды падзеі, звязаныя з духоўным развіццём і прафесійным сталеннем супрацоўнікаў непадцэнзурных СМІ. Прага да свабоды заўсёды была характэрнай рысай гарадзенцаў. Нават у самыя змрочныя часы тут заўсёды былі людзі, якія адчувалі сябе свабоднымі і змагаліся за права быць свабоднымі.**

Летась у сакавіку ў Цэнтры гарадскога жыцця Гродна адкрылася вялікая выстава «Непадцэнзурная Гародня. 1983–2018», якая распавядала гісторыю нараджэння свабоднага слова, станаўлення і знішчэння незалежнага друку, барацьбы журналістаў за права на прафесію цягам 35 гадоў. Гэта была першая ў Беларусі выстава, прысвечаная свабодзе слова. Натхніўшыся ёю, пройдзем па вуліцах Гародні і ўзгадаем самыя яркія моманты з жыцця гарадзенскай незалежнай журналістыкі. Менавіта праз яе можна адчуць дух той эпохі, калі рукамі журналістаў стваралася гісторыя нашай краіны.



Філалагічны факультэт на вул. Ажэшкі

## Самвыдатаўская «Містыка»

Падарожжа па журналісцкай Гародні мы пачынаем каля філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Менавіта тут, у студэнцкім асяродку, выспела ідэя выдаваць свой часопіс. Каб нічога не ўзгадняць і не пытацца дазволу ва ўніверсітэцкага кіраўніцтва, а пісаць толькі пра тое, што лічыш патрэбным. Так увесну 1983 года з'явіўся непадцэнзурны самвыдатаўскі часопіс «Містыка».

…Увосень 1982 года Віктар Варанец вярнуўся з будатраду і на

зробленыя грошы набыў машынку для друку. Яе кошт быў ці не роўны трохмесячнаму заробку сярэднестатыстычнага савецкага будаўніка «светлай будучыні». Але Віктару з сябрамі так карцела выдаваць сваё, што грошай не пашкадавалі. Да ўсяго 1982 год стаў першым годам, калі ў БССР не трэба было рэгістраваць друкарку ў адпаведных органах, і таму выхад «Містыкі» не зрэзалі на самым узлёце.

Наклад кожнага нумара складаў шэсць асобнікаў – па адным на кожны курс гарадзенскага філфака. Выйшла чатыры нумары, дзе студэнты друкавалі свае творы на беларускай, рускай, польскай і ангельскай мовах. Часопіс хутка набыў папулярнасць, гэтак жа хутка студэнцкім самвыдатам зацікавіліся і «органы»: пачаліся «прафілактычныя» гутаркі, угаворы і пагрозы.

Неўзабаве моладзь заснавала яшчэ і студэнцкі клуб «Катарсіс», што канчаткова перапоўніла чашу цярпення як універсітэцкіх чыноўнікаў, гэтак і «тайнай канцылярыі»: актыўнасць студэнтаў спынілі. Тады, на шчасце, абышлося без затрыманняў, арыштаў і сур'ёзных наступстваў.



Музей імя Максіма Багдановіча



Плошча Леніна




## «Рэанімова»

Крочым да гарадзенскага музея імя Максіма Багдановіча. Менавіта тут знаходзілася рэдакцыя першага буйнога і вядомага самвыдата «Рэанімова», які выходзіў цягам 1989–1990 гадоў.

Назва «Рэанімова» азначала вяртанне да жыцця беларускай справы, надзеі, перспектывы, якія ў тыя часы знаходзіліся ў крытычным стане.

Задума выдаваць сваю газету ў маладой гарадзенскай інтэлігенцыі ўзнікла яшчэ ў 1988 годзе. Яе рэдактаркай была вядомая гарадзенская паэтка Данута Бічэль. Газета друкавалася ў Вільні, а прадавалася ў Гародні ля помніка Сакалоўскаму альбо падчас шматлікіх у той час мітынгаў. Свет пабачылі больш як 10 нумароў «Рэанімовы».

## Барацьба за прафесію

Наступная кропка – плошча Леніна, дзе месцяцца гарвыканкам і аблвыканкам. Менавіта тут адбываліся шматлікія пікеты і акцыі гарадзенскіх журналістаў у абарону сваіх правоў. Напрыканцы 1990-х – пачатку 2000-х журналісцкая салідарнасць у Гродне была вельмі моцная.

Падчас праследу журналістаў газеты «Пагоня» гарадзенцы паказалі такі



Пікет у абарону газеты «Пагоня». Мікола Маркевіч

прыклад салідарнасці з журналістамі, які варта было б вывучаць ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях. Актывісты арганізацыі «Разам» былі першымі, хто выйшаў да аблвыканкама ў абарону незалежнага выдання. Тады «лятучыя» пікеты ў падтрымку свабоды слова ладзіліся па ўсім горадзе. Прастаяць атрымлівалася ўсяго некалькі хвілін, бо журналістаў і грамадскіх актывістаў амаль адразу ж саджалі ў аўтазакі. Аднак гарадзенцам удалося правесці каля 20 пікетаў, удзельнікаў якіх пазней прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.

Адной з самых цікавых была акцыя, калі актывісты зрабілі вялікую чорную труну і арганізавалі шэсце па вуліцы Чапаева (цяпер Васілька), што сімвалізавала пахаванне свабоды слова. Труну прынеслі да абласнога суда, дзе праходзіў разгляд апеляцыі па справе газеты «Пагоня».

Тая хваля салідарнасці прыцягнула ўвагу да праблем грамадзянскіх правоў і свабод у Беларусі не толькі нашых суайчыннікаў, але й міжнароднай грамадскасці, праваабарончых арганізацый Заходняй Еўропы і ЗША.

У 2000 годзе група гарадзенскіх журналістаў на чале з Анджэем Пісальнікам спрабуе заснаваць гарадскую незалежную газету «Рэпарцёр». Аднак улады горада адмаўляліся ўзгадняць юрыдычны адрас будучай рэдакцыі, без чаго дакументы на рэгістрацыю новага незалежнага выдання не прымалі. Журналісты цягам 9 месяцаў выдавалі бюлетэнь «Рэпарцёр» накладам 299 асобнікаў, бо такі наклад не патрабаваў рэгістрацыі.

Калі 2 траўня 2000 года ўлады Гродна трэці раз адмовілі рэдакцыі «Рэпарцёра», пяцёра журналістаў выйшлі на акцыю пратэсту да будынка гарвыканкама. Яны абвязаліся вяроўкамі і заклеілі рты скотчам. На іх футболках былі надпісы «Хто яшчэ не душыў журналіста?».

Нягледзячы на шматлікія пікеты, узгадненне на атрыманне юрыдычнага адрасу ўлады так і не падпісалі.

## «Пагоня»

У будынку № 1 па вуліцы Дамініканскай размяшчалася рэдакцыя легендарнай газеты «Пагоня» – адной з першых беларускіх незалежных газет, якая стала сімвалам эпохі. А яшчэ таго пакалення, што сталела ў 1990-я і бачыла сваёй будучыняй незалежную Беларусь. Выданне паспяхова існавала амаль


Будынак № 1 па вуліцы Дамініканскай


Журналісты рыхтуюць першы нумар газеты «Пагоня». Міхась Карневіч, Мікола Маркевіч і Алена Раўбецкая

10 гадоў, і ўвесь гэты час яго супрацоўнікі хадзілі па лязу нажа, бо друкавалі вострыя матэрыялы і крытыкавалі дзейнасць уладаў. «Пагоня» увайшла ў гісторыю Беларусі і як незалежнае СМІ, журналістаў якога ўпершыню асудзілі за абразу прэзідэнта.

Нулявы нумар газеты выйшаў 25 сакавіка 1992 года, а першым яе рэдактарам быў Сяргей Астраўцоў. Газета пачыналася як заходнебеларускі рэгіянальны агляд, але хутка стала агульнанацыянальным грамадска-палітычным выданнем. Яго наклад у найлепшыя часы дасягаў 17 тысяч асобнікаў.


Мікола Маркевіч

Каб выдаваць газету, тагачасны дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання журналіст Мікола Маркевіч і пісьменнік Аляксей Карпюк у 1991 годзе заснавалі культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына».

Падчас прэзідэнцкіх выбараў 1994 года «Пагоня» актыўна падтрымала Зянона Пазьняка і крытыкавала Аляксандра Лукашэнку. Газета адна з першых сярод беларускіх СМІ змясціла антыкарупцыйны даклад дэпутата Сяргея Антончыка.

У 2001 годзе «Пагоня» шырока асвятляе прэзідэнцкую выбарчую кампанію і зноў рэзка крытыкуе дзейнасць улады. Расправа не заставіла доўга чакаць: спачатку быў арыштаваны ўвесь наклад 37-га нумара, затым – рахунак і маёмасць рэдакцыі. А 12 лістапада 2001 года Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі прыняў рашэнне спыніць выхад газеты. Некаторы час яна існавала ў інтэрнэце.

Кампанія праследу скончылася для Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі абмежаваннем волі «за паклёп на прэзідэнта». Заўважым, што журналістаў асудзілі за артыкулы ў газеце, якія чытачы так і не ўбачылі, бо ўвесь тыраж таго нумара «арыштавалі» яшчэ ў друкарні. Так пачыналася знішчэнне незалежнага друку ў Беларусі.

## «Біржа інфармацыі»

У 1997 годзе ў Гродне сабралася група аднадумцаў – Алёна Раўбецкая, Міхась Карневіч і Юлія Урбановіч. Тады яны яшчэ дакладна не ведалі, што такое медыябізнес, але добра ўяўлялі, што такое добрая газета. Журналісты аб'ядналі свой досвед, ідэі і напрыканцы лютага 1998 года стварылі штотыднёвік «Біржа інфармацыі», які стаў адным з самых папулярных у Гродне. Газета адчувала аўдыторыю і рабіла запатрабаваны інфармацыйны прадукт.

«Я тады, як той круты эканаміст, усё пралічыла: праз 8 месяцаў мы выходзім на "нуль", пасля пачынаецца прыбытак, – расказвае Алена Раўбецкая. – А ў жніўні 1998 года адбыўся дэфолт і папера пачала каштаваць неймаверных грошай. Таму дзесьці яшчэ паўтара гады мы былі стратнымі, і толькі пасля пачалі выходзіць на прыбытак.


Алена Раўбецкая


Дворык галерэі «Крыга». Першая рэдэкцыя газеты «Біржа інфармацыі»


Гарадзенская турма. Фота К. Ляўдацкай

У 1997 годзе, калі мы толькі пачалі рабіць газету, да мяне прыйшлі бандыты. Сказалі, што мы павінны плаціць ім 20 долараў у месяц. У тыя часы ў некаторых былі такія заробкі. Я сказала, што ніколі не буду ім плаціць ні 20, ні 5 долараў, ні нават 10 цэнтаў. Яны былі вельмі здзіўленыя – чаму? Я адказала, што, па-першае, я – дама, па-другое, што адразу іх сфатаграфую і ўсё пра іх напішу. Так і разышліся. Пасля мы часам выпадкова сустракаліся, і я заўсёды атрымлівала камплімент ці ківок».

Пасля парламенцкіх выбараў і рэферэндуму 2004 года выданне газеты прыпынілі на тры месяцы. Пазней аднавіць выхад ужо не дазволілі. Апроч таго, ўсе беларускія друкарні адмовіліся друкаваць «Біржу інфармацыі», таксама была адмова і ў распаўсюдзе газеты. Прычынай стаў артыкул галоўнай рэдактаркі выдання Алены Раўбецкай «Здрада імем народа», дзе былі радкі: *«Рэферэндум (а без яго трэцяга тэрміну не атрымаць), абвешчаны спадаром прэзідэнтам, – гэта выклік грамадству. Трэба не толькі не мець сумлення, але і валодаць "панскай" пагардай да плебсу, абсалютнай упэўненасцю, што "плебс" нічога не разумее і не вырашае»*. У артыкуле ўбачылі абразу прэзідэнта, пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу. Пры гэтым ацэнку матэрыялу давала нават не лінгвістычная ці юрыдычная экспертыза, а шэраговы міліцыянт з аддзелу аховы правапарадку Ленінскага раёна. Алене Раўбецкай пагражала ўзбуджэнне крымінальнай справы і турэмнае зняволенне, аднак усё скончылася штрафам. Ахвярай стаў незалежны і найпапулярнейшы штотыднёвік «Біржа інфармацыі».

Апошні яго нумар надрукавалі ў Смаленску і распаўсюджвалі сярод гарадзенцаў бясплатна. «Да сустрэчы ў абноўленай краіне!» – гаварылася ў развітальным слове рэдакцыі да сваіх чытачоў.

## Гарадзенская турма

Даносіць да грамадства праўду пад сілу не кожнаму. Аднак менавіта тыя людзі, якія перакананыя, што моц не ў сіле, а ў праўдзе, могуць змяняць свет.

Падыходзім да гродзенскай турмы, муры якой памятаюць шмат чалавечых лёсаў і трагедый. З турмой звязана мноства таямніц і легенд, яе і сёння лічаць адной з самых суровых у Беларусі. А з'явілася яна яшчэ за царскім часам, калі расійскія ўлады вялікую частку кляштара пераабсталявалі пад месца зняволення. З келляў, дзе раней жылі манахі, зрабілі камеры з кратамі. Тут адбывалі пакаранне як крымінальнікі, гэтак і палітвязні і вольнадумцы.

Пазней, у савецкі час, сюды адпраўлялі зацятых злачынцаў ды лідараў крымінальнага свету. А напрыканцы 1990-х тут ізноў з'явіліся палітвязні, сярод якіх былі і незалежныя журналісты.

Шэфа бюро расійскага тэлеканала ОРТ Паўла Шарамета арыштавалі ў Мінску 26 ліпеня 1997 года за рэпартаж з беларуска-літоўскай мяжы. Арыштавалі і яго сябра аператара Дзмітрыя Завадскага, а таксама кіроўцу карпункта, які вазіў здымачную групу. Усіх траіх адправілі ў гродзенскі цэнтрал.

Тады Міжнародная амністыя ўпершыню прызнала беларускіх журналістаў палітычнымі вязнямі. Неўзабаве канвеер рэпрэсій запрацаваў напоўніцу.

У Гродзенскай турме па палітычных матывах таксама сядзеў журналіст Gazety Wyborczej у Беларусі, актывіст Саюза палякаў Беларусі (СПБ) Анджэй Пачобут. Як ён сказаў, за сваю пазіцыю і імкненне адкрываць людзям вочы на тое, што адбываецца за саламянай заслонай, якая аддзяляе Беларусь і Еўропу. Пачобут неаднаразова падвяргаўся пераследу і ў ліпені 2011 года быў асуджаны «за паклёп на прэзідэнта» да трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады.

21 чэрвеня 2012 года Анджэя Пачобута зноў арыштоўваюць, каб абвінаваціць у паклёпе на Лукашэнку. Падставай сталі яго нататкі ў блогу і артыкулы на сайтах «Хартыя-97» і «Беларускі партызан». Напрыканцы чэрвеня журналіста вызваляюць пад падпіску аб нявыездзе. 15 сакавіка 2013 года другая крымінальная справа супраць яго была закрытая за адсутнасцю складу злачынства.


Анджэй Пачобут

Судовыя працэсы над Анджэем Пачобутам прыцягнулі вялікую міжнародную ўвагу. А ў Гродне ля будынка суда на знак салідарнасці з журналістам збіраліся дзясяткі людзей.

## Радыё НБК

Апошняя кропка нашай прагулкі па журналісцкай Гародні – будынак на Леніна, 18. Тут размяшчалася рэдакцыя Радыё НБК – першага незалежнага радыё на Гарадзеншчыне, якое праіснавала з 1993-га па 1996 год.

Перадачы ішлі тры разы на тыдзень па радыёкропцы (так-так, быў яшчэ нядаўна такі гаджэт) у гадзіну перапынку.

Заснавальніцай і рэдактаркай Радыё НБК была Ніна Палуцкая. Грошы на радыё яна атрымала ў банку, узяўшы пазыку. Гэтых сродкаў хапіла, каб купіць пульт і два добрых мікрафоны. Назва НБК – гэта Ніна Банк Комплекс, у гонар банка, які быў першым спонсарам радыё.

«Стварэнне радыё стала поўнай авантурай. Але тады быў такі час! Многія з нас былі поўныя надзей, мы гатовыя былі пераадольваць любыя перашкоды, таму што хацелі гэтым займацца. Мы самі зараблялі сабе на жыццё, таму можна назваць наша радыё камерцыйным», – расказвае Ніна Палуцкая.

Сітуацыя стала пагаршацца пасля першых прэзідэнцкіх выбараў у 1994 годзе. У выніку радыё НБК было зачынена рашэннем уладаў у 1996 годзе. Прычына – зачытванне ў эфіры вытрымак з артыкула тагачаснага старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага «*У Беларусі запахла фашызмам*». Было гэта якраз напярэдадні рэферэндуму, калі ў Вярхоўным Савеце адбылася галадоўка дэпутатаў, якіх жорстка збілі.

«Неўзабаве да нас прыйшоў чалавек з галоўнага ўпраўлення службы кантролю прэзыдэнта. Ён забраў у нас усе дакументы, а наступным днём заблакавалі наш банкаўскі рахунак. Я тады яшчэ на нешта спадзявалася і падала позву ў суд. Аднак суд нашу заяву адхіліў без тлумачэнняў», – успамінае Ніна Палуцкая.

Гэта быў апошні пункт падарожжа па найноўшай гісторыі незалежнай гарадзенскай журналістыкі. Зразумела, што ў адным артыкуле мы не змаглі ахапіць неабдымнае, узгадаць усе імёны і падзеі. Але нават такі экскурс дае магчымасць уявіць, якім быў няхай і кароткі, але поўны надзей перыяд уздыму незалежнай журналістыкі. Гэта быў час пошуку новых фарматаў і шчырых надзей. Час самаадданай працы, калі журналісты верылі, што спрычыніліся да стварэння свабоднай і незалежнай краіны. Дзеля гэтага многія з іх рызыкавалі і ахвяравалі ўласнай свабодай.

Сёння іх прыклад вяртае веру ў прафесію. Бо на змену тым, хто адстойваў свабоду слова 30 гадоў таму, прыходзіць моладзь, якая абрала непадцэнзурную журналістыку. Непадцэнзурную – значыцца праўдзівую, значыцца рызыкоўную і небяспечную. Але ўсё ж многія яе абралі. Бо пачуццё адказнасці за лёс краіны і вера ў тое, што ў Беларусі ўсё ж такі запануе справядлівасць, падавілі страх.


Будынак на Леніна, 18

# «Антысептык супраць ідыятызму»



## гутарым пра моц добрага гумару з мастаком і карыкатурыстам Алесем Суравым

**Чым пакрыўдзіў Лукашэнку гарадзенскі мастак, ці можа гумар быць зброяй, лепшай за кулакі, ці выжыве жанр карыкатуры, – пра ўсё гэта разам з порцыяй анекдотаў пра беларусаў у размове з Алесем Суравым.**

Гародня, 1999 год. Аблога і ператрусы ў рэдакцыі «Пагоні», аб'яднанні «Ратуша» і… у лялечным тэатры, у якім з большага праходзілі спектаклі для дзетак.

Што так заўзята шукаюць аператыўнікі? Як ні дзіўна, маленькую жоўтую кніжачку з карыкатурамі гарадзенскага мастака Алеся Сурава, любімым героем якога быў не хто іншы, як кіраўнік Беларусі.

Цягам некалькіх гадоў Сураў публікаваў у незалежных выданнях карыкатуры, якія «рвалі шаблон», смела і дзёрзка высмейвалі рэчаіснасць. Гарадзенцы выразалі

іх з газет і перадавалі з рук у рукі. Перасled Алеся ўладамі цягнуўся некалькі месяцаў. Мастака пакінулі ў спакоі толькі пасля ўмяшання міжнароднай супольнасці, аднак майстэрні ўсё ж пазбавілі.

Праз 20 гадоў з таго часу мы пагутарылі з Алесем Суравым аб тым, наколькі моцнай зброяй можа быць гумар.




***– Спадар Алесь, як Вы лічыце, ці можа гумар быць сродкам змагання і якая яго сіла?***

– Увогуле незвычайна, размаўляць пра гумар сур'ёзна *(смяецца)*. Сусветная практыка даказала, што супраць ідыятызму гумар – найлепшая зброя. Ідыёта можна загнаць у кут фізічна або палітычна, але ён будзе змагацца да канца, а гумар раскладвае яго на часткі.

Гумар – гэта свайго роду антысептык. Ён любую з'яву паказвае з іншага боку, несур'ёзнага. Часта ў палітыцы нагнятаецца атмасфера, людзей запужваюць, і раптам узнікае анекдот або карыкатура трапная, якія ўсё ставяць на свае месцы. І людзей, якія ашукваюць або спрабуюць маніпуляваць, гумар абяззбройвае, не дае ім зрабіць іх цёмныя справы. Чаму пры Сталіне так анекдотаў баяліся? Чаму Гітлер так ненавідзеў Чарлі Чапліна? У фільме «Вялікі дыктатар» Чаплін так дакладна паўтарыў усе гэтыя істэрычныя рухі фюрэра, увесь той абсурд, што людзі пачалі ўспрымаць Гітлера як клоўна, а не як палітыка. Ці возьмем Херлуфа Бідструпа, дацкага карыкатурыста, якога Гітлер загадаў злапаць і забіць. Дзякуючы карыкатурам, Будструп здымаў усё гэтае напускное шалупінне. І так з любой з'явай. Чалавек нацягвае на сябе сур'ёзную маску, а нехта пусціць жарцік у яго бок, і ўвесь пафас растае ў паветры. Добры жарт людзі нашмат хутчэй успрымаюць, чым любую доўгую прамову палітыка. Мне былы рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч, калісьці скардзіўся: «Я ўсю ноч тэкст пісаў, а ты з раніцы карыкатуру прынёс і ўвесь мой артыкул кату пад хвост». Бо ў гэтым малюнку было ўсё для ўсіх зразумела. Мова гумару – унікальная, яе не трэба тлумачыць, яна зразумелая незалежна ад мовы.

***– Пакуль эфір забівае КВН і Comedy Club, у Польшчы працягваецца традыцыя кабарэтаў, ва Украіне з'яўляюцца ўвесь час новыя гумарыстычныя праграмы. Як Вы думаеце, што з намі сталася? Беларусы, мабыць, пры Сталіне больш жартавалі, чым зараз…***

– Людзі пасмурнелі. Сталі сумнымі, таму што ідэі і прыярытэты ў жыцці змяніліся. Усе хочуць багата жыць, усе кінуліся зарабляць грошы, а сітуацыя ў краіне не дазваляе іх зарабіць. Які тут гумар? Гэта ж трагедыя. Мы заўсёды шукаем, што нам перашкаджае жыць. І мы перасталі шукаць тое, што б нам жыць дапамагала, што б нас радавала.




Нядаўна я набыў кніжку «Беларускі гістарычны анекдот», з задавальненнем яе прачытаў. І калі мне нешта такое трапляе, я заўсёды гэта хапаю і смяюся. Чаго не хапае ў Беларусі? Проста ў нас нейкая трагікамедыя ўвесь час атрымліваецца.



А было б выдатна, каб у нас з’явіўся такі пісьменнік, які б умеў смяяцца з нашага побыту. Як, да прыкладу, блогер Слава Сэ ў Латвіі. Можна і палітыку не прымешваць, ён проста апісвае на першы погляд банальныя жыццёвыя сітуацыі, але такім чынам, што можна жывот надарваць.

***– Як Вы лічыце, ці ёсць сярод цяперашняга інфармацыйнага фастфуда месца для такога жанру, як карыкатура?***

– Карыкатура засталася патрэбнай толькі вельмі абмежаванай колькасці людзей, якія гэты жанр разумеюць і цэняць. Карыкатура – гэта ўсё ж такі эстэтыка. Людзі сёння як чытаюць? Раз – і пераматаў, уверх ды ўніз. Яны развучваюцца нават логіку сваіх думак упарадкавана выказваць. Увесь час урыўкі ды ўрыўкі. Набор знакаў, набор інфармацыі. Людзі схопліваюць на ляту піктаграмамі. А над карыкатурай трэба пасядзець, трэба паразглядваць. Я «Вожыкі» збіраў, падшываў і складваў, каб потым дастаць і яшчэ раз паглядзець. Гэта мела свой сэнс і інфармацыйную важнасць. А сёння інфармацыі стала значна больш. Яна стала хутка спажывацца, як фастфуд. Але я ўсё ж такі думаю, што карыкатура яшчэ можа выстраліць, як выстраліў калісьці комікс.

***– Заўважна, што хоць Вы болей і не друкуеце карыкатуры, але ў мастацтва Вы дагэтуль укладваеце добрую порцыю гумару. Дзе мяжа паміж тым, каб гумар не пераўтварыць у крыўду і здзек?***

– Залежыць ад таго, што ў душы творцы. Можна напісаць з гумарам і мілосцю, а можна тое ж самае апошліць. І так з маімі выставамі. Усе ведаюць і любяць гумар габрэйскі, і я спасылаўся на яго, але са свайго боку (выстава «Паштоўкі»). Я не хацеў проста намаляваць анекдоты, якія






ведаю. Дарэчы, здароўе нацыі – у анекдотах пра сябе. Габрэі нават у самыя страшныя часы кпілі з сябе, і мне хацелася крыху свайго гумару дадаць. А пра свіней (выстава «У Краіне сала») – гэта ўжо зусім іншы гумар. Паколькі мне няма дзе карыкатуры маляваць, то тут я даў сабе волю. Атрымалася такая саркастычная выстава.

Мяжа паміж пошласцю і гумарам пралягае недзе ў душы творцы і ён павінен адказваць за тое, што робіць. Бо, калі ты хочаш кагосьці абразіць, гэта ўжо не гумар. Возьмем, да прыкладу, Задорнава, які калісьці падняў на вушы ўвесь Савецкі Саюз вострымі, трапнымі рэчамі. А потым скаціўся да такіх абражальных, пошлых жартаў у бок народаў, у бок нейкіх асобных людзей. Мяжа пралягала ў яго душы. Ён стаў злым. Спачатку ён з гумарам ставіўся да савецкай улады, а потым СССР развальваліўся і ў Латвіі з-за закону аб люстрацыі ў яго адабралі кватэру, якая была прызначана яго бацьку, пісьменніку. І ён стаў злы. А потым сталі кепскія і амерыканцы, і латышы.

Анекдот:
***Ёсць тры стадыі крызісу ў Беларусі: першая – няма грошай, другая –зусім няма грошай і трэцяя – трэба мяняць даляры.***

***– Вернемся да 90-х гадоў і часоў пераследу. Як Вы думаеце, чым пакрыўдзілі Вашыя карыкатуры Аляксандра Лукашэнку?***

– Гэтая «жоўтая кніжачка» з маімі карыкатурамі трапіла яму проста на стол пасля аднаго з соймаў БНФ, дзе іх раздавалі ўсім ахвотным. І праз пару месяцаў на нейкім чарговым спатканні з творчай інтэлігенцыяй, якое транслявалася па тэлебачанні, у сваёй прамове Лукашэнка сказаў, што, канешне, творчыя людзі, мастакі і пісьменнікі – гэта гонар нашай краіны, але сярод іх ёсць «заблудшые художнікі, каторыя рысуют жоўтыя кніжачкі».

У той «жоўтай кніжачцы» было шмат трапных карыкатур. Шчыра скажу, што я быў здзіўлены такой рэакцыяй. Смешна так рэагаваць на карыкатуры.

***– А на Вашую думку, Лукашэнка ўвогуле здольны сам з сябе пасмяяцца?***

– Думаю, што гумар у яго ёсць, як і ў кожнага чалавека. І мабыць, у цяперашнія часы ён бы так не рэагаваў. Сёння на дзяржаўным узроўні, магчыма, проста і не заўважылі б ні кніжкі, ні мяне. Хацелася б, каб у Лукашэнкі ў адносінах да сябе гумару было паболей і каб у крывое люстэрка ён глядзеў часцей.

Эканоміка кіруе сітуацыяй, і праз гумар гэта таксама можна падаць. Неяк я маляваў, як чыноўнік б'е пугай каня, стоячы на возе, а конь даўно здох і ўжо рэбры толькі ляжаць на траве, але чыноўнік усё валіць і крычыць: «Упярод!» Гэта было столькі гадоў таму, а сітуацыя ў Беларусі ні на грам не змянілася. Чыноўнікі ўсё крычаць і лупцуюць пугай. Можна пісаць многа, а чалавек адразу зразумеў, што адбываецца, і гэтым карыкатурыст небяспечны.




**Гутарыла Кася Ляўдацкая**

ФРЫЛАНС

# «Чалавек павінен быць свабодным!»

**Віцебскі фрылансер Віталь СКРЫЛЬ прыйшоў у журналістыку, калі яшчэ працаваў выхавальнікам у дзіцячым садку. Шмат што ў жыцці ён успрымае з гумарам і аптымізмам. У тым ліку, як не дзіўна, і перaслед за журналісцкую дзейнасць. Аднойчы ў судзе ён пачаў гаварыць па-польску. Пасля таго як суддзя адмовіўся прадаставіць перакладчыка з рускай мовы на беларускую, каб лягчэй было зразумець юрыдычную тэрміналогію.**



Алена СЦЯПАНАВА,
спецыяльна для «А»

***– Віталь, цябе ўжо двойчы штрафавалі за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ. Як у сям'і ставяцца да судовага пераследу?***

– Гэта, будзем лічыць, выдаткі прафесіі. Адмыслоўцы розных прафесій, вядома, перажываюць, калі да іх прыходзяць праверкі. А да мяне вось час ад часу прыходзіць міліцыя, і жонка ставіцца да такіх візітаў спакойна, яна мяне разумее.

А што да судоў, то гэта вельмі карысны досвед! Да першага штрафу ў мяне была ідэальная, «чыстая» біяграфія – нават без штрафу за адсутнасць флікера або за пераход вуліцы ў неналежным месцы. Так што першы судовы досвед быў рэальна першым, калі напярэдадні паседжання давялося вывучаць Адміністрацыйны кодэкс, рабіць выпіскі, раіцца з праваабаронцамі, каб ведаць элементарнае: што ў судзе можна, а чаго нельга.

Потым ты прыходзіш у суд і бачыш іншы бок у гэтым працэсе. А ён, гэты бок, бывае і не зусім адукаваны, і не зусім лагічны ў сваіх паказаннях. Ты кажаш пра тое, што дзейнічаеш па законе, а потым пастанова суддзі – і ты разумееш, што ўсе твае аргументы праляцелі міма. Гэта крыўдна. Але ўсё адно ёсць карысць: ты маральна адчуваеш сябе вышэй за тых, хто служыць у гэтай структуры і проста абавязаны цябе караць. І яшчэ важна, што цяпер я ведаю законы, ведаю Канстытуцыю. У школе ды ўніверсітэце няма прадмету, дзе б толкам вывучалі заканадаўства. Аказваецца, у ім ёсць шмат цікавага, што не працуе ў жыцці! Калі гэта ведаеш, то з'яўляюцца новыя стымулы і для тролінгу ў судзе. Чаму не павесяліцца ў межах закона? Падчас апошняга працэсу, напрыклад, я пачаў прамаўляць па-польску. Бо суддзя адмовіўся запрасіць перакладчыка, каб дапамагчы мне зразумець рускамоўную юрыдычную тэрміналогію. Па законе ў судзе грамадзянін мае права карыстацца любой мовай, якую ведае. Вось я патроліў суд польскай. Трэба было бачыць вочы суддзі…



***– Сваю працоўную дзейнасць ты пачынаў выхавальнікам у дзіцячым садку. Аднак абраў журналістыку…***

– Я скончыў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт, факультэт беларускай філалогіі і культуры, спецыяльнасць паводле дыплому – настаўнік, літаратурна-рэдакцыйны супрацоўнік. Мяне чакала размеркаванне ў вясковую школу, куды мне не хацелася, таму працу я пачаў шукаць яшчэ на выпускным курсе. Высветлілася, што ўсе месцы ў віцебскіх школах занятыя, а вось у дзіцячых садках былі вакансіі. Мне прапанавалі месца ў цэнтры развіцця дзіцяці – гэта той самы дзіцячы садок, але з крыху вышэйшым статусам. Умоўна кажучы, адрозненне як паміж школай і гімназіяй. Камісія па размеркаванні была трохі ў шоку: як гэта – хлопец пойдзе працаваць у садок?

Перспектыва працаваць у жаночым калектыве мяне не бянтэжыла, я ўжо прывык, бо на курсе ў нас было 30 дзяўчат і 5 хлопцаў. Так што выхавальнікам я адпрацаваў амаль тры гады, і ўражанні засталіся вельмі прыемныя. Прынамсі, ад працы з дзецьмі.

***– Ты прынцыпова беларускамоўны чалавек, а працаваў у рускамоўным садку. Даводзілася пераходзіць на рускую мову?***

– Абсалютна не! Калі мяне афармлялі на працу, кіраўніцтва раённага аддзела адукацыі ведала, што бярэ беларускамоўнага выхавальніка. І з дзецьмі я размаўляў па-беларуску. Калі нешта не разумелі – тлумачыў. Дарэчы, на мой погляд, у нас была ідэальная мадэль двухмоўнага выхавання: у групе працавалі два чалавекі, рускамоўная калега і я. Дзеці атрымлівалі пароўну веды і навыкі на дзвюх мовах. Да ўсяго мы ставілі беларускамоўныя сцэнкі, вучылі вершы. І бацькі былі толькі «за».

Тое, што я з дзецьмі размаўляў па-беларуску, выклікала незадавальненне толькі аднойчы, падчас нейкай «высокай» праверкі. Мне заявілі, што гэта недапушчальна, але ўступіліся бацькі, нават былі гатовыя збіраць подпісы ў маю абарону. Гэта пытанне з часам «замялі», а неўзабаве я і сам вырашыў пакінуць сістэму адукацыі.

***– Чаму, што цябе напружвала? І ці адчуў ты сябе больш вольным, калі выбраў сцежку фрылансера?***

– Напружвала, хутчэй, не праца, а тое, што было па-за ёй. Прыкладам, я адмаўляўся хадзіць на суботнікі. А навошта? Мой выходны дзень – гэта маё права. Вядома ж, кіраўніцтву не дужа падабалася мая вольніца, ды яшчэ тое, які прыклад я падаваў іншым калегам. Па праўдзе, амаль год я спрабаваў спалучаць працу выхавацеля з журналістыкай. Але спалучаць было ўсё цяжэй і цяжэй. Да ўсяго памянялася кіраўніцтва ў раённым аддзеле адукацыі, шмат хто пачаў сыходзіць. Урэшце сышоў і я.

Цяпер ні хвіліны не шкадую, што пайшоў у недзяржаўную журналістыку. Па-першае, у мяне класны калега-аператар, вельмі таленавіты прафесіянал, з вялікім досведам працы. Па-другое, я ніколі не разумеў тых, хто імкнуўся ўціснуцца ў дзяржаўную газету. Былі ў мяне аднакурснікі, якія гадамі пісалі ў гарадскую газету, выпрошвалі туды размеркаванне, а потым траплялі ў поўную залежнасць. Гэта была плата за сацыяльныя гарантыі, да якіх яны імкнуліся. Які тут творчы пошук?! То трэба было асвятляць канцэрты рускай папсы, то бегчы ў Лядовы палац на хакей. Адным словам, праца такая, што ні задавальнення, ні прафесійнага росту.

***– Нядаўна ў цябе нарадзіўся сын, якому зараз паўгода. Малое дзіця вымагае шмат клопату. Ці не замінае гэта працы?***

– Не замінае. Я лёгка спраўляюся, калі ўначы трэба ўстаць да малога, пераапрануць яго, памыць. Трохі, можа, і адукацыя дапамагае, і працоўныя навыкі, што засталіся з дзіцячага садка, хоць мае выхаванцы былі старэйшыя – ад трох да шасці гадоў. Прынамсі, я ведаю, што дзіця – гэта ўжо чалавек, хоць і маленькі. Я вельмі радуюся, што ў мяне расце сын. Шмат часу з ім праводжу, калі жонка ходзіць здаваць іспыты, бо яна вучыцца завочна.

***– Адкуль у цябе такая дасканалая мова?***

– Я вучыўся ў рускай школе, але на філфаку ўсе імкнуліся размаўляць па-беларуску. Цяпер я размаўляю на роднай мове практычна заўжды, нават не заўважаю гэтага.

Падмурак закладаўся ў дзяцінстве. Я з няпоўнай сям'і, мама дома размаўляла па-расейску, але памятаю, як у прысутнасці бабулі і дзядулі яна пераходзіла на беларускую. Такая была завядзёнка. Мае дзяды з Магілёўшчыны, жылі ў Слаўгарадскім раёне. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС яны пераехалі пад Віцебск. Ад нашага дому да іхнай хаты было каля 500 метраў, і калі мы прыходзілі ў госці, то я трапляў у абсалютна іншы моўны асяродак. Бабуля размаўляла на чысценькай мове, і з ёй было прынята размаўляць толькі па-беларуску. Яшчэ адыграла ролю тое, што ў 1990-я ў садках беларускамоўнае выхаванне культывавалася, і я, будучы дашкольнікам, свабодна размаўляў у групе па-беларуску.

Магчыма, з дзяцінства заклалася і цікаўнасць да мовазнаўства: я вельмі люблю слухаць і аналізаваць гаворкі. Прафесія журналіста ў гэтым сэнсе ідэальная для мяне, бо я сустракаю багата людзей, шмат іх слухаю і размаўляю з імі.

***– Мне даводзілася разам з табой ездзіць у аддаленыя рэгіёны. Калі недзе спыняліся перакусіць, то я часам цябе шкадавала: ў маленькіх вясковых крамах ніякіх разнасолаў, а ты ж вегетарыянец.***

– Я даўно прывык. Мяса не любіў ніколі, заўсёды аддаваў сасіску ці катлету аднакласнікам. Калі стаў старэйшы, ад мяснога адмовіўся свядома. Я лічу, што нікога нельга забіваць. А калі ты ясі мяса, то міжволі спрычыняешся да забойства. Гэта маё прыватнае меркаванне і я нікога не прымушаю ўспрымаць мае аргументы. Але я выбар зрабіў, мне так камфортна, і мяняць свой рэжым не збіраюся. Цяжка было толькі ў войску. Я служыў у запасе, бо ёсць такая форма службы, калі маеш вышэйшую адукацыю. Мне прызначылі службу ў артылерыйскіх войсках, у Бароўцы, што пад Лепелем. Перыядычна выклікалі, як на зборы.

Там порцыі былі вялікія, хапала салатаў, разнастайных гарніраў. Толькі на палігоне былі выпрабаванні, калі кармілі два разы на дзень: ранкам каша, перамешаная з тушонкай, а на вячэру – зількай. Я не еў ні таго, ні другога. Таму загадзя прасіў, каб для мяне пакідалі толькі кашу. Часам пакідалі, часам не.

***– І тым не менш: ці хапае ў цябе сіл, ці не церпіць здароўе праз гэтыя абмежаванні?***

– Здароўе ў мяне – дзякуй Богу! Гэта я не проста так кажу: я раз на год праходжу медычны агляд. Бо я яшчэ й донар са стажам.

***– Донар?! Гэта таксама з прынцыповых меркаванняў?***

– Заўжды хацеў быць донарам! Мая мама – медык, я хадзіў да яе на працу, ніколі не баяўся выгляду крыві. І часам былі патрэбныя грошы. Донарская кроў заўсёды патрэбная, ёсць магчымасць ўратаваць чыёсьці жыццё. Дык чаму не? Раз на два месяцы хаджу здаваць, там правяраюць і ўзровень гемаглабіну, і агульны стан здароўя. Кажу, апярэджваючы наступнае пытанне: як у вегетарыянца, у мяне паказнікі не тое што ў норме – нават лепшыя за іншых.

***– Вернемся да журналістыкі. Ты чалавек адукаваны, ведаеш законы. Ці не было жадання атрымаць акрэдытацыю у МЗС і пазбегнуць судоў ды штрафаў?***

– Я ж чалавек рацыянальны. І ведаю, што ўсё гэта марныя спробы. Шчыра сказаць, адразу пра гэта не думаў, бо калегам акрэдытацыі не давалі. А потым, калі атрымаў першы штраф, то цягам года па акрэдытацыю звяртацца няма сэнсу, бо пры наяўнасці адміністрацыйных пакаранняў акрэдытацыю не даюць. Калі штрафы рэгулярныя, то акрэдытацыя табе ўвогуле не свеціць. Гэта ўжо ланцужок, які не разарваць. Але на нейкія фестывалі, на культурніцкія мерапрыемствы ў Віцебску нам давалі акрэдытацыю, і мы працавалі цалкам легальна.




***– Абодва твае штрафы – за матэрыялы пра беспрацоўе, якія паказалі на тэлеканале «Белсат». На тваю думку, чаму ў рэгіёнах хаваюць гэтую праблему?***

– Пэўна, мясцовыя чыноўнікі хаваюць усе праблемы, якія толькі можна схаваць. Баяцца атрымаць па шапцы. Любы рэгіён у нас «харошы», пакуль ціхі. А як толькі пачынаецца нейкі варушняк, і звесткі пра гэта даходзяць да сталіцы, то ніхто не хоча быць крайнім. Сітуацыя выглядае так: у рэгіёнах робяць выгляд, што на месцы ўсё добра, а ў Мінску робяць выгляд, што не заўважаюць рэгіянальных праблем. Зрэдзьчас, калі трэба, то робіцца паказальная порка: кагосьці звальняюць, кагосьці палохаюць турмой, раздаюць вымовы і г. д. Усе чыноўнікі баяцца, аднак такая сітуацыя непазбежная, пакуль штучна падтрымліваецца імітацыя «парадку і стабільнасці».

***– Усё гэта выглядае сумна. Што натхняе на працу ў такіх варунках, што дапамагае не расчаравацца ў прафесіі і ў людзях?***

– Якраз-такі людзі і натхняюць! Калі мы рабілі матэрыял пра ЖЭУ № 5 Віцебска, дзе працаўнікоў хацелі перавесці на максімальна кароткі працоўны дзень і на самы нізкі заробак, то людзі не баяліся скардзіцца на ўмовы працы. А іхныя начальнікі – наадварот, бо адзін наш візіт прымусіў іх схавацца за адзверы, да нас так ніхто і не выйшаў. Пасля нашага матэрыялу тых кіраўнікоў змясцілі, паставілі новых. Неўзабаве мы сустракаліся з людзьмі, якія баранілі свае правы, яны задаволеныя. Гэта і натхняе: калі людзі не баяцца, калі яны не абыякавыя, калі просяць дапамагчы і не хаваюцца. Бо страшэнна раздражняе, калі скардзяцца на несправядлівасць, а потым кажуць: мы на тэлекамеру нічога гаварыць не будзем, давайце, вы скажаце замест нас. Так не робіцца! Зусім іншая справа, калі людзі смелыя. Тады разумееш, што ў нашай краіне яшчэ не ўсё страчана, не ўсе сядзяць угнуўшы галовы. Не ўсе задзёўбаныя, і ёсць тыя, хто памятае пра свае правы, пра сваю годнасць.

***– Пра якія змены ў краіне ты марыш, у што верыш?***

– Спярша скажу, у што не веру. Я не веру, што пры змене ўлады нешта ў нашай краіне істотна зменіцца. Бо дзяржаўны апарат, сістэма ўлады настолькі моцна зрасліся, што калі не змяніць сістэму цалкам, то яна будзе па-ранейшаму трымацца за сваё.

У сілу палітычных партый і аўтарытэт іх лідараў я таксма не надта веру. Бо не бачу тут нейкай крутой праграмы, якая б дала штуршок і ў якую б паверыла грамадства.

Лічу, што неабходна аднаўляць сацыяльную дзяржаву. Ствараць іншыя прафсаюзы, якія насамрэч будуць бараніць працоўных, а не існаваць фармальна. Вельмі важна, каб людзі адчувалі сябе абароненымі.

Я не мару пра тое, што ўсе суайчыннікі стануць беларускамоўнымі. Мова – гэта не толькі духоўная патрэба, але й пытанне зручнасці. Аднак я мару, каб заканадаўства, якое гарантуе роўныя правы рускамоўным і беларускамоўным грамадзянам, выконвалася. Калі яно будзе рэальна выконвацца, а не існаваць толькі на паперы, то ўсё будзе добра.

Веру ў неабходнасць свабоды слова. Не істотна, на якой мове. Галоўнае, каб гэтая свабода не зневажала і не абмяжоўвала свабоды іншага. Чалавек павінен быць свабодным! Тым больш не баяцца гэтага і ўмець правільна распараджацца сваёй свабодай. І сваім словам. Для мяне гэта важна!

**Фота І. Мацвеева**

# АККРЕДИТАЦИЯ, ДИСКРИМИНАЦИЯ, СУД...



Ольга СЕХОВИЧ

**Белорусское законодательство и правоприменительную практику отличает дискриминационный подход в отношении фрилансеров – журналистов, которые не состоят в штате какого-либо СМИ. Особенно сложное положение у тех, кто сотрудничает с иностранными медиа, ведь они не могут получить даже статус внештатного корреспондента.**

Это связано с тем, что Закон «О средствах массовой информации» содержит два различных определения журналиста: *«журналист средства массовой информации»* и *«журналист иностранного средства массовой информации»* (ст. 1). В этих определениях наличие трудового договора является принципиальным отличием *журналиста иностранного средства массовой информации* от *журналиста средства массовой информации*. Осуществление профессиональной деятельности журналистов иностранных средств массовой информации на территории Республики Беларусь без аккредитации запрещается (ст. 35 Закона о СМИ).

Следует отметить, что ни в одном из постсоветских государств законодательство, регулирующее деятельность СМИ, не проводит такого разделения между журналистами, которое может рассматриваться как дискриминация.

Журналисты-фрилансеры сталкиваются с рядом проблем из-за того, что официальные инстанции часто не признают их представителями прессы. Для них наиболее актуальны такие проблемы, как доступ к информации, в частности получение аккредитации при государственных органах, и невозможность подтвердить статус журналиста, потому что у фрилансеров отсутствует служебное удостоверение.

Перед фрилансерами, которые публикуются в зарубежных медиа, стоит еще одна острая проблема – привлечение к административной ответственности. Сотрудники милиции составляют административные протоколы по ч. 2 ст. 22.9 Кодекса об административных правонарушениях Республики Беларусь («Нарушение законодательства о средствах массовой информации») едва ли не за каждый репортаж. Тем временем суды, ссылаясь на эту норму закона, налагают на журналистов административные взыскания в виде штрафов, которые достигают 50 базовых величин.

Журналистам ставится в вину «*незаконное изготовление и (или) распространение продукции средств массовой информации*», так как они работают без аккредитации Министерства иностранных дел Беларуси. В то же время они не могут получить такую аккредитацию, поскольку, не имея трудового контракта с работодателем, не признаются журналистами иностранного СМИ в соответствии с действующим законодательством и не отвечают требованиям для аккредитации, предъявляемым Положением о порядке аккредитации в Республике Беларусь журналистов иностранных средств массовой информации. Получается своего рода замкнутый круг.

Будучи не в состоянии воздействовать на зарубежные медиа, белорусские власти пытаются влиять на своих граждан, которые с ними сотрудничают, стремясь ограничить деятельность независимых журналистов.

Практика привлечения журналистов-фрилансеров к ответственности по ст. 22.9 КоАП

существует с 2013 года. Составлению протоколов часто предшествуют задержания и вызовы в милицию. В 2018 году по этой статье суды наложили 118 штрафов на общую сумму около 104 тысяч рублей, с начала 2019 года их уже 12 – на 12 тысяч рублей.

Во всех случаях основанием для привлечения к административной ответственности стало не содержание материалов, а сам факт их появления в иностранных СМИ. Фактически белорусское государство отказывает журналистам в праве распространять информацию независимо от государственных границ и подвергает их дискриминации по сравнению с коллегами, работающими на отечественные СМИ.

Белорусская ассоциация журналистов не раз высказывала свою позицию относительно преследования журналистов-фрилансеров, в том числе в обращениях к органам государственной власти: это грубое нарушение права на свободное выражение мнения, гарантированного ст. 33 Конституции и международно-правовыми актами, участницей которых является Республика Беларусь, в частности ст. 19 Международного пакта о гражданских и политических правах.

Комитет по правам человека ООН, наблюдающий за выполнением государствами – участниками Международного пакта о гражданских и политических правах, в 2011 году дал следующий комментарий относительно понятия «журналист»: «*Журналистские функции выполняет широкий круг лиц, в том числе профессиональные штатные репортеры и аналитики, блогеры и другие лица, которые публикуются в печатных изданиях, Интернете или где-либо еще* <…>. *Ограничения на аккредитацию допустимы лишь в случаях, когда для журналистов необходимо предоставить привилегированный доступ в некоторые места или на некоторые события. Такие ограничения не должны носить дискриминационный характер и должны применяться в соответствии со статьей 19 и другими положениями Пакта на основе объективных критериев и с учетом того, что журналистские функции выполняет широкий круг лиц*» (п. 44 Замечания общего порядка № 34. Статья 19 «Свобода мнений и их выражения»).

В то время как во всем мире растет доля журналистов, не являющихся штатными сотрудниками какого-либо СМИ, привлечение фрилансеров к административной ответственности и наложение значительных штрафов за профессиональную деятельность в нашей стране становится все более очевидной нелепостью и несправедливостью.

Не первый год БАЖ проводит адвокационную кампанию по защите интересов белорусских фрилансеров «За фриланс!» как внутри страны, так и за ее пределами.

В 2018 году Белорусская ассоциация журналистов и Белорусский Хельсинкский Комитет направили совместное обращение в Конституционный суд Беларуси с просьбой принять решение о необходимости устранить правовую неопределенность и противоречия в законодательстве, в результате чего журналистов привлекают к ответственности по ст. 22.9 Кодекса об административных правонарушениях. В нем особо подчеркивалось, что «*законодательство о СМИ в Беларуси призвано служить основой для реализации права на распространение информации и должно соответствовать международным стандартам в этой сфере*». Аналогичные обращения в Конституционный суд направили члены БАЖ Ольга Чайчиц и Андрей Козел. К слову, Ольга в минувшем году была оштрафована за профессиональную деятельность 14 раз! К сожалению, обращения фрилансеров не были рассмотрены благоприятно.

**Фактически белорусское государство отказывает журналистам в праве распространять информацию независимо от государственных границ и подвергает их дискриминации по сравнению с коллегами, работающими на отечественные СМИ.**

В Комитет по правам человека ООН от имени журналистов, которые подверглись административному преследованию по статье 22.9 КоАП, был подан и ожидает рассмотрения ряд жалоб на нарушение Республикой Беларусь права на свободное выражение мнения, гарантированного ст. 19 Международного пакта о гражданских и политических правах.

Во время недавнего визита в Минск представитель ОБСЕ по вопросам свободы СМИ Арлем Дезир посетил БАЖ, где среди прочих проблемных вопросов обсуждалось положение фрилансеров, которые сотрудничают с зарубежными СМИ. «*Мы гордимся тем, что в Беларуси есть смелые журналисты, готовые бороться за плюрализм мнений и многостороннее освещение ситуации*», – отметил господин Дезир.

О проблемах белорусских фрилансеров Арлем Дезир говорил и на встрече с белорусскими официальными лицами: по мнению ОБСЕ, обязательной аккредитации журналистов вообще не должно существовать. Но если же такая процедура предусмотрена, то она должна быть открытой и прозрачной, без возможности необоснованных отказов.

В очередной раз хочется верить, что эти пожелания белорусские власти все же услышат. И внесут соответствующие изменения в законодательство, что позволит всем журналистам работать свободно и в равных условиях.

